# Голас Радзімы

№ 27 (2169)
5 ліпеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.







Белая дача знаходзіцца ў маляўнічым куточку на ўскраіне Мінска, у Курасоўшчыне. Такую назву прыгожаму збудаванню, аднаму з нямногіх, што засталіся ў Мінску ад мінулых часоў, даў народ. У энцыклапедычных даведніках дом пазначаны як гарадская сядзіба, помнік архітэктуры другой паловы XIX стагоддзя.

Многа ў будынка было гаспадароў да рэвалюцыі і ў наш час, месціліся тут розныя ўстановы. Але, здаецца, цяперашняе прызначэнне найбольш адпавядае ўсяму абліччу дома.

Сёлета ў маі пасля поўнай рэканструкцыі ў Белай дачы па ініцыятыве Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра культуры створаны Цэнтр беларускага фальклору. Ужо даволі доўгі час паблізу Белай дачы праводзіліся народныя святы: «Гуканне вясны», «Купалле», «Юр'е» і іншыя.

Цяпер гэта стала правілам, добрай традыцыяй. Удзел у такіх святкаваннях будуць браць фальклорныя калектывы. У залах Цэнтра размясцілася экспазіцыя твораў народных майстроў. Тут можна пазнаёміцца з вырабамі ганчароў, ткачых, з саломапляценнем і іншымі відамі традыцыйных беларускіх промыслаў. Белая дача ў хуткім часе стане месцам, дзе будуць атрымліваць парады і кансультацыі фальклорныя калектывы, стане месцам практычнай работы спецыялістаў і ўсіх, хто цікавіцца народнай творчасцю.

Фота С. КРЫЦКАГА.





З'ЕЗД

## САБРАЛІСЯ АГРАРНІКІ

У Мінску завяршыўся першы з'езд Саюза аграрнікаў Беларусі. Гэта падзея адбылася ў пераломны час у жыцці ўсёй краіны. Бо цяпер, калі перабудова ўступіла ў найбольш адказную і нават крытычную фазу, калі ў вельмі цяжкім становішчы аказалася наша сельская гаспадарка, харчовая і перапрацоўчая прамысловасць, аграрнікі ва ўвесь голас заявілі аб неабходнасці кансалідацыі сваіх радоў. Без гэтага, а таксама без вырашэння ў спакойнай і дзелавой абстаноўцы вострых праблем, што накапіліся, нельга сёння разлічваць на паспяховае развіццё ўсяго нашага аграпрамысловага комплексу.

На абмеркаванне з'езда былі ўнесены пытанні: аб утварэнні Саюза аграрнікаў Беларусі, прыняцці Статута і Праграмы саюза, выбары старшыні саюза, яго намеснікаў, а таксама іншых кіруючых органаў, прыняцце звароту ўдзельнікаў з'езда да кіраўнікоў і саветаў працоўных калектываў прадпрыемстваў прамысловасці, будаўніцтва, транспарту і іншых галін народнай гаспадаркі рэспублікі.

На з'ездзе з дакладам «Саюз аграрнікаў Беларусі, яго мэты і задачы» выступіў старшыня арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы да правядзення з'езда, старшыня Савета калгасаў БССР, народны дэпутат СССР А. Дубко.

СУМЕСНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА

## «ТЭМПА» ЧАСУ НЕ ТРАЦІЦЬ

Разгарнула сваю дзейнасць сумеснае савецка-амерыканскае прадпрыемства «Тэмпа», заснаванае Інстытутам цепла-і масаабмену Акадэміі навук БССР і нью-йоркскай фірмай «Хемісфера паблішынг карпарэйшн». Вучоныя розных краін скора змогуць па заслугах ацаніць яго першую прадукцыю—класічныя працы савецкіх вучоных, навукова-папулярную літаратуру, даведнікі. Гэтыя выдадзеныя раней у СССР кнігі будуць надрукаваны і прададзены заакіянскімі партнёрамі. А пераклалі іх на англійскую мову і адрэдагавалі перакладчыкі, нанятыя па кантрактах. Праўленне СП ацэньвае работу кожнага перакладчыка ў балах: калі гэта «тройка», то да яго больш не звяртаюцца, калі ж «4» або «5», то выдаецца значная грашовая прэмія. Будуць развіваць тут і ўласную паліграфічную базу. Калі стане больш св[illegible] тэхнікі, пачнецца тыражаванне навуковай літаратуры, у тым ліку зарубежнай, і для ўнутранага рынку...

Дэбют супрацоўнікаў інстытута ў выдавецкай справе ўжо адбыўся: яны ўзялі на сябе інфармацыйнае забеспячэнне 7-й міжнароднай канферэнцыі па цеплавых трубах. З пачатку будучага года «Тэмпа» плануе выдаваць міжнародны часопіс «Энергетыка. Энергія. Экалогія», які, магчыма, паявіцца таксама і ў рускамоўным варыянце.

ФОТАВЫСТАЎКА



У Мінску заканчваецца паказ фотавыстаўкі, што адлюстравала пераможцаў Усесаюзнага конкурсу «Міс-фота СССР». З фатаграфій на наведвальнікаў глядзяць дзесяткі прыгожых дзяўчат. На выстаўцы прадстаўлены копіі двухсот работ. Мэтай і конкурсу, і фотавыстаўкі з'яўляецца не толькі прапаганда жаночай прыгажосці, але і дабрачыннасць. Ужо паведамлялася аб рашэнні пераможцаў першага конкурсу прадаставіць свае прызы для продажу на аўкцыёне, а выручаныя валютныя сродкі перадаць у дабрачынныя фонды. Не з'яўляецца выключэннем і выстаўка: большая частка выручкі будзе перададзена Асацыяцыі барацьбы са СНІДам.

На выстаўцы ў Мінску прадстаўлена каля двухсот фотаработ.

НА ЗДЫМКУ: фатаграфія з выстаўкі.

ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ



У беларускай сталіцы адбылася цырымонія перадачы—прыёму дабрачыннага грузу, дастаўленага ў нашу краіну па лініі кампаніі «Апджон» (ЗША).

Сем цяжкавагавых грузавікоў прывезлі сучасныя медыкаменты для хворых на лейкамію, авітаміноз, скурныя і іншыя захворванні на агульную суму чатыры мільёны долараў. Яны прызначаюцца для жыхароў раёнаў Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Украіны, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

На галоўнай плошчы сталіцы БССР сабраліся актывісты Беларускага камітэта абароны міру, Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру, таварыства «Радзіма», Беларускага фонду міласэрнасці і здароўя, Таварыства Чырвонага Крыжа, прадстаўнікі Беларускай епархіі Рускай праваслаўнай царквы, урадаў БССР, УССР і РСФСР. Прысутных вітаў старшыня Беларускага камітэта абароны міру І. Шамякін. Ён, у прыватнасці, сказаў, што гэтую гуманную, пакуль самую буйную дапамогу ажыццяўляе на дабрачынных пачатках амерыканская кампанія «Апджон» сумесна з арганізацыяй «Проджэкт хоуп» і іх еўрапейскія аддзяленні, і выказаў ім глыбокую падзяку, запэўніўшы, што добрыя справы народ Беларусі будзе помніць заўсёды.

Са словамі шчырай падзякі выступілі таксама намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР А. Кічкайла, мітрапаліт Філарэт, прадстаўнікі Украіны і РСФСР і іншыя.

Прысутныя цёпла сустрэлі выступленне кіраўніка еўрапейскага філіяла «Апджон» Браяна Эліса і дырэктара аддзялення «Проджэкт хоуп» Г. Кеваркяна.

НА ЗДЫМКУ: генеральны менеджэр Усходнееўрапейскага аддзялення фармакалагічнага канцэрна «Апджон компані» Браян ЭЛІС дэманструе ўзоры лякарстваў, дастаўленых у Мінск.

*Любы парламент павінен адпавядаць нейкім крытэрыям. Я б не сказаў, што зараз яны ў мяне сфармуляваны абсалютна дакладна. Але калі зрабіць параўнанне з парламентамі іншых саюзных рэспублік, то яно будзе на нашу карысць, чым я задаволены і ганаруся. Адзін жа з крытэрыяў, на мой погляд, такі: парламент павінен шукаць рашэнні, якія б адпавядалі інтарэсам большасці. Гэтаму патрабаванню беларускі парламент адпавядае. Так, ёсць некаторыя адхіленні, паскарэнні або, наадварот, тармажэнні гэтага працэсу, але гэта не заўсёды істотна і прынцыпова. Таму не буду марыць аб нейкім там звышідэальным парламенце, які можа існаваць толькі ў чыімсьці ўяўленні. Я маю гонар працаваць менавіта з гэтым парламентам, мне гэта прыемна, і я спадзяюся, што ён будзе адпавядаць майму разуменню ідэальнага.*

*(З інтэрв'ю Станіслава ШУШКЕВІЧА, першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета БССР).*

НА ЧАРНОБЫЛЬСКІ РАХУНАК

## ДАБРАЧЫННЫ КАНЦЭРТ

«Міласэрнасць не ведае межаў. Наш абавязак аказваць і надалей дапамогу людзям, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС». Пад такім дэвізам у аўстрыйскай сталіцы адбыўся дабрачынны оперны гала-канцэрт.

На сабраныя сродкі будуць закуплены медыкаменты і медыцынскае абсталяванне для лячэння беларускіх дзяцей, якія пацярпелі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ

# ВАЙНА: ДЗЕ ПРАЎДА?

Бадай што, самая цікавая, нязмушаная, па-навуковаму прынцыповая размова адбылася за апошнім «круглым сталом» у Палемічным клубе «Звязды». Тэма не новая: Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне. Але падыходы да яе ў многім нешаблонныя, погляд вучоных не навязаны пэўнай канцэпцыяй, схемай, распрацаванай на загад «вярхоў», а свой, уласны. Лейтматывам гутаркі гісторыкаў і пісьменнікаў была думка: не прымяншаць значэння Перамогі нашага народа над германскім фашызмам.

Перад нашымі вучонымі неабсяжнае поле, пакрытае столькімі «белымі плямамі»! На думку загадчыка аддзела Інстытута гісторыі АН БССР А. Літвіна, адно з неасветленых пытанняў — дзейнасць калабарацыяністаў на тэрыторыі Беларусі ў гады вайны. Людзей цікавіць СБМ, беларуская краёвая абарона, беларускія нацыяналісты ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Цяпер ужо не сакрэт, што дзейнічалі беларускія, літоўскія, латвійскія, эстонскія, мусульманскія, украінскія батальёны, часці так званай «РВА» і інш. Людзі аб гэтым ведаюць. Ведаюць, з кім ваявалі партызаны. Але, калі пісаўся трохтомнік гісторыі партызанскага руху, напрыклад, імкнуліся нідзе не ўказваць, што разбіты паліцэйскі ўчастак. Рэдкалегія замяняла гэта іншымі словамі: фашысты, гітлераўцы.

У сувязі з гэтым завязалася палеміка: як ставіцца да культурнай спадчыны так званых калабарацыяністаў. Кандыдат гістарычных навук К. Даманаў аднавначна адказвае на гэта пытанне: узважана падыходзіць да ацэнкі асоб, якія супрацоўнічалі з фашысцкімі акупантамі, і ні ў якім разе не ігнараваць іх антыпатрыятычную дзейнасць. Гісторык адмоўна паставіўся да намаганняў нашых літаратараў выдаць аднатомнік вершаў Наталлі Арсеньевай, якая жыве ў ЗША.

Довады? У сучаснай гісторыі Беларусі Н. Арсеньева вядома не толькі як жонка аднаго з самых заўзятых ваенных злачынцаў Францішка Кушаля. Яна была сярод актыўных памагатых акупантаў, уваходзіла ў групу верхаводаў беларускага нацыянал-фашызму, карысталася ў іх асяроддзі поўным даверам і падтрымкай. Арсеньева-Кушаль унесла і свой асабісты ўклад у барацьбу супраць партызан. З'яўлялася супрацоўніцай прафашысцкай «Беларускай газеты», дапамагала гітлераўцам злавіць у Мінску партызана Канстанціна Немчыка, які ўдзельнічаў у выкананні смяротнага прыгавору аднаму з верхаводаў беларускага нацыянал-фашызму, рэдактару гэтай газеты Казлоўскаму. Арсеньева-Кушаль наладзіла таксама засаду работнікаў СД у сваёй кватэры для ўзяцця партызанскай сувязной Галіны Паддуевай, якая па заданню камандавання спрабавала наладзіць з ёю сувязь. І толькі па шчаслівай выпадковасці Паддуева засталася жывая.

Арсеньева-Кушаль з'яўляецца да таго ж аўтарам паліцэйскага гімна і шэрагу іншых ваенных паходных песень, апублікаваных у прафашысцкіх выданнях, сапраўднае прызначэнне якіх зводзілася да таго, каб «натхніць» паліцаяў і ваяк праславутай кушалеўскай «Беларускай краёвай абароны» на жорсткія карныя аперацыі супраць партызан і мірнага насельніцтва. У яе вершах прапаведуюцца нацыяналізм, нянавісць да іншых народаў.

У адказ на гэта дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР В. Каваленка выставіў свае довады. «Гэта пытанне вельмі складанае. Некаторыя думаюць, што калі мы звернемся да спадчыны Наталлі Арсеньевай, то мы нешта ўтоім. Мы напішам пра тое, што яна была аўтарам паліцэйскага гімна. Але ёсць і іншыя факты. Загінуў яе сын па віне немцаў. І калі ўжо меркаваць па прэцэдэнту гістарычнаму, то, напрыклад, Купрын выступаў супраць Савецкай улады, жыў у эміграцыі, і тым не менш гэта выдатны рускі пісьменнік.

Цяпер што датычыць засады каля дома Арсеньевай. Паверце, мы б гэта ўлічылі, калі б былі дакументы. Калі гавораць, што Наталля Арсеньева арганізавала засаду ў сябе на кватэры, то я ў гэта не паверу. Затрымаць сувязнога можна было б больш проста. Калі б немцы ведалі, што прыйдзе партызан, былі б ачэплены тры кварталы.

Такія пытанні вельмі і вельмі складаныя. Мы пастараемся ўлічваць гэта. Аднак будзем кіравацца творчасцю паэтэсы. Я прачытаў зборнік яе вершаў «Між берагоў», які выйшаў у Нью-Йорку. Там антысаветызму няма. Успамінаецца Сталін побач з Гітлерам, як два вялікія дыктатары. Ёсць вершы, прысвечаныя 25 сакавіка. Вядома, будзем імкнуцца да максімальнай аб'ектыўнасці».

Варта спыніцца на дзейнасці польскіх нацыяналістычных фарміраванняў — Арміі Краёвай. Пра гэта ў нас раней нідзе не згадвалася, відаць, каб не кідаць цень на «польска-савецкую дружбу». Наспела неабходнасць разабрацца ва ўсіх гэтых з'явах і даць ім ацэнку, таму што існаваў не адзін атрад Арміі Краёвай, а колькасць яе радоў дасягала некалькіх тысяч. Больш дзесяці атрадаў і злучэнняў дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі. Іншая справа, што яны ў асноўным займалі дваякую пазіцыю, прытрымліваліся тактыкі двайной гульні (гэта значыць барацьба супраць немцаў і супраць савецкіх партызан). Трэба разабрацца ў адносінах, якія былі паміж падпольнымі партыйнымі органамі і гэтымі атрадамі, у пазіцыі Масквы і Лондана па гэтаму пытанню.

У Навагрудскай акрузе было 6 буйных злучэнняў Арміі Краёвай са 180 зарэгістраваных, 108 баявых дзеянняў было праведзена супраць нашых партызан. Але ж і мы з імі ваявалі. Была па сутнасці міжусобная барацьба. У адной вёсцы палякі жылі, у другой беларусы — яны знішчалі адзін аднаго. Гэта была трагедыя народа, пра што трэба таксама гаварыць.

*НАТАТКІ З ПАДАРОЖЖА*

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, МАРЫЙКА!

Марыя Гарайнава дэ Вухт жыве ў Вілвардзе даўно.

— Мы прыехалі з Жоржам сюды на яго радзіму адразу пасля вайны.

Прыгадваючы тыя далёкія ўжо гады, Марыя пакручвае просценькі сярэбраны пярсцёнак на правай руцэ.

— Жорж падарыў мне яго яшчэ ў Германіі, калі нас вызвалілі амерыканцы,—усміхаецца Марыя.—Тады ж мы з ім і вырашылі: пажэнімся і будзем жыць у Бельгіі.

А ў далёкай Расіі, у вёсцы з прыгожай назвай Руская Жураўка, засталася маці Ганна Сяргееўна. І доўгі час дзве родныя душы—маці і дачка нічога не ведалі адна пра адну. Праўда, ім пашчасціла сустрэцца. Дачка амаль кожны год бывае ў Кіеве, дзе жыве Ганна Сяргееўна.

— Праўда, сёлета паехаць не выходзіць, — засмучаецца Марыя.—Трэба дапамагаць дзецям, даглядаць унукаў. Жоржу аднаму цяжка, ды яшчэ летась ён трапіў у аварыю...

Я заўважыў: пра што б ні гаварыла Марыя—пра дзяцей, пра сход членаў Саюза савецкіх грамадзян у Боме, пра тое, што яшчэ зрабіць, каб знаходжанне ў іх яе пляменніцы з Кіева Таццяны было больш цікавым і разнастайным,—заўсёды яна нібы раілася з мужам, помніла аб ім, чакала ад яго дапамогі. І цярплівы, сціплы Жорж без лішніх слоў, абсалютна своечасова рабіў менавіта тое, што было неабходна. Такое ўзаемаразуменне бывае ў людзей, якія пражылі побач доўгае шчаслівае жыццё.

На паўшляху ад Бруселя да Антверпена—Мехелен. У самым цэнтры горада ўзвышаецца велічны кафедральны сабор Сент-Рэмбо. Па ўсяму перыметру ён у рэстаўрацыйных рыштаваннях. Але рамонт не перашкаджае прыхаджанам. Асабліва мнагалюдна тут, відаць, было ўчора, на Вялікдзень. А сёння наведвальнікаў—адзінкі. Перад уваходам да нас падыходзіць юнак. Ён усміхаецца і дае кожнаму падарунак—поліэтыленавы пакет з шакаладкамі ў выглядзе велікодных яек. Такая традыцыя.

Унутры сабора цішыня. І толькі зрэдку—шэпт малітвы і амаль нячутныя крокі. Раптам я спыняюся перад дзвюма іконамі—«Тайная вячэра» і «Абмыванне ног». Што гэта? Побач з імі—тэкст на рускай мове: «Кардиналу Мерсье с глубокой благодарностью от Королевского союза русских, окончивших ВУЗ в Бельгии». Пра якую вышэйшую навучальную ўстанову ідзе гаворка? Крыху пазней даведваюся, што кардынал Мерсье—асоба, вядомая ў Бельгіі. Ён нарадзіўся ў 1851 годзе. Атрымаў добрую адукацыю. Многа зрабіў для аб'яднання хрысціян. Заснаваў універсітэт, у якім вучыліся і студэнты з Расіі. У гады першай сусветнай вайны кардынал Мерсье зрабіў многа для абароны Бельгіі. Памёр ён у 1920 годзе. Бельгійцы помняць і шануюць памяць свайго земляка. Помняць і ўдзячных рускіх, якія вучыліся ў свой час у Бельгіі.

Захоўваюць тут і памяць пра чалавека, чый лёс звязаны быў і з далёкай Расіяй, і з бельгійскім Ватэрлоо. Так, гэта—Напалеон. Тут, на гэтых палях, вялікі дыктатар пацярпеў апошняе паражэнне. Мемарыяльны комплекс штодня наведваюць сотні, тысячы турыстаў. Мноства сувеніраў разыходзіцца адсюль. Для мяне ж, па праўдзе, цікавей за ўсё былі старыя фермерскія будыніны і магутныя дрэвы ля іх—сведкі той гістарычнай баталіі 1815 года. Колькі бачылі яны!

А на зваротным шляху пры пад'ездзе да Бруселя амаль такія ж гіганты ляжалі на зямлі.

— Зімой была бура,—растлумачыў Жорж.

Чаму ж да гэтай пары не прыбралі паваленыя дрэвы? Аказваецца, чакаюць палякаў. Якіх палякаў? Звычайных. З Польшчы. Бельгійцы, сярод якіх каля 500 тысяч беспрацоўных, не хочуць выконваць такую нізкааплатную работу. А палякі згодны.

Праўда, калі адна бельгійская фірма вырашыла заключыць кантракт з высокакваліфікаванымі электрагазазваршчыкамі з ГДР, то мясцовыя спецыялісты прыгразілі забастоўкай. І фірма адмовілася ад кантракта.

А я чамусьці падумаў тады. «Хутка на нізкааплатную работу тут будуць чакаць рабочых з Савецкага Саюза». Падставы для такіх песімістычных думак, на жаль, ёсць. Я чуў і раней пра тое, што нашы грамадзяне нават з вышэйшай адукацыяй, выязджаюць за мяжу, дзе згодны на любую часовую працу. Толькі б зарабіць крыху валюты, каб набыць, скажам, двухкасетнік, відэасістэму або «старэнькую машыну». І ў поездзе па дарозе ў Бельгію давялося сустрэць такога «шукальніка шчасця».

Вось такія мы. Такімі нас зрабіла грамадства, у якім калісьці гаварылі пра перманентную рэвалюцыю, а сёння—гэта краіна перманентнага дэфіцыту. І не толькі матэрыяльнага.

Можа таму за мяжой асабліва задумваешся, якімі нас бачаць, як мы выглядаем на тэлеэкранах. У Б[illegible]і звыш дваццаці тэлеканал[illegible]. Па кожным з іх, хоць некалькі разоў у дзень, паказваюць навіны з СССР. І не злая задума замежных тэлекарэспандэнтаў, што ў іх рэпартажах нашы людзі выглядаюць злымі, нервовымі, узбуджанымі. Такія мы [illegible]я.

Расказь[illegible] гэта не для таго, каб палохаць чытача. Углядаючыся ў жыццё, бачым сёння нямала прыкмет сумнага працэсу заняпаду, што адбываецца на Радзіме. Раней мы любілі паўтараць: «Людзі ў нас бедныя, затое гордыя». Жыццё даказвае, што гэта ханжаства: не можа быць гордым чалавек абяздолены. Ён шукае выйсця. І хто можа з упэўненасцю сказаць, што ў бліжэйшай будучыні нам не пагражае масавая эміграцыя? Закон аб выездзе яшчэ не дзейнічае, а некаторыя людзі карыстаюцца нават урэзанымі магчымасцямі. У Бельгіі сёння жыве і працуе музыкант Храмушын. Як і «шукальнік шчасця», з якім мяне сутыкнуў лёс у поездзе, мінчанін выехаў у Бельгію па прыватнаму запрашэнню. А там прыняў удзел у музычным конкурсе, і з ім адразу ж заключылі кантракт. Так высока ацанілі яго прафесійны ўзровень. Але ці дадае нам нацыянальнай гордасці, калі такім чынам нашы людзі, нашы суайчыннікі далёка ад Радзімы праяўляюць свае здольнасці?!

Пытанні, пытанні...

...Вілвард—горад невялікі. І, бадай, кожны ведае не толькі сваіх блізкіх суседзяў. Многа добрых знаёмых тут і ў Марыі Гарайнавай, якую ласкава завуць «Марыйка». Так звяртаюцца да яе суседзі па дому, так яе сустракалі на базары, што праводзіцца ў горадзе двойчы на тыдзень, у мясцовым лесапарку, дзе любяць адпачываць вілвардцы. І мне таксама хочацца сказаць: «Добры дзень, Марыйка! Што новага? Як Жорж? Дзеці? Спадзяюся, што Каця і Стэфанік не забываюць вас. Што Эдзі не сапсаваў адносін са знаёмымі тэлежурналістамі... А Віктар, нарэшце, зрабіў свой выбар і не так часта цяпер ездзіць у камандзіроўкі...».

**Уладзімір МЯЛЕШКА.**

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

# СПРАВА БЫЛА Ў ВАРШАВЕ

Колькі і як яны ішлі і паўзлі па каналізацыйных трубах у непралазнай гразі, сярод табуноў пацукоў? А падняцца наверх нельга: горад быў у руках немцаў, яны палілі, руйнавалі яго з нянавісцю і лютасцю. Героі і пакутнікі, паўстанцы-варшавяне, перажывалі трагедыю, якой не ведала дагэтуль гісторыя. «Падняцца наверх і быць разам з варшавянамі, змагацца з агульным ворагам да апошняга дыхання!» — такія думкі свідравалі мозг Івана Коласа, але ён разумеў, што гэтага яму не дадзена: ён павінен выканаць чаго б гэта яму ні каштавала заданне маршала Ракасоўскага, перадаць яму архіважныя звесткі, ад якіх многае залежыць, у тым ліку і лёс Варшавы. І ён працягваў разам з Юзафам ісці і паўзці далей у апраметнай цемры — марудна, з частымі прыпынкамі, напружваючы слых да крайнасці. Над іх галовамі ў трубах падземных праносіліся неаднойчы кулі. Гэта немцы прастрэльвалі час ад часу каналізацыйныя трубы і калодзежы, у якіх хаваліся ад азвярэлых фашыстаў героі і пакутнікі паўстаўшай Варшавы: старыя, жанчыны, дзеці. У час аднаго такога «прачосвання» падзямелля быў ранены Юзаф. На другія суткі пасля ранення яму рабілася ўсё горш і горш. Смярдзючая пара абцяжарвала дыханне, і паветра з шумам і свістам вырывалася з яго горла. Неверагодныя намаганні даводзілася прыкладаць Івану, таму што цяпер ён адказваў не толькі за сябе, а, бадай, больш—за жыццё польскага сябра. Але вось і... канец падзямелля! Пасля тунельнага смуроду, ужо наверсе, калі яны абодва ляжалі поплеч, пацягнуліся хвалі прыемнага асвяжаючага паветра. Ім не верылася, што яны жывыя. Абодва ляжалі моўчкі, кожны думаў пра сваё. Але так працягвалася зусім нядоўга. Промні нашых пражэктараў, што асвятлялі неба на тым баку Віслы, клікалі, прыцягвалі да сябе... Хлопцы асцярожна спусц[illegible] па нахіленай трубе ў воды Віслы. Ап[illegible] метры Іван Колас праплыў нібыта ў нейкім кашмарным сне... А калі ён пачаў траціць прытомнасць, яго падхапілі нечыя рукі—то былі савецкія салдаты. Прайшло менш чым суткі, Іван Колас прывёў сябе ў парадак, пагаліўся, памыўся, надзеў форму і адправіўся ў штаб фронта. Аб вы[illegible]нанні асобага задання дакладваў само[illegible] маршалу Канстанціну Ракасоўскаму.

Неўзабаве войскі Першага Беларускага фронта, якімі камандаваў К. Ракасоўскі, перайшлі ў наступленне. У ноч на 17 студзеня 1945 года шматпакутная, змучаная фашыстамі Варшава была вызвалена. Разам з нашымі воінамі перамозе радаваўся і разведчык Іван Колас, які ўклаў у яе немалую частку сваёй працы.

Івану Коласу потым давялося выконваць яшчэ нямала асоба важных заданняў не толькі на тэрыторыі Польшчы. Чытаю яго рукапіс аб тым, як ён у Берліне арганізаваў захоп «языка».

Івана Коласа выклікаў да сябе начальнік разведаддзела штаба Першага Беларускага фронта генерал-маёр А. Трусаў.

— Вазьміце, таварыш капітан, пяць разведчыкаў, сёння вечарам прайдзіце ў раён Аляксандрплац і захапіце «языка». Пажадана, вядома, генерала.

Праз гадзіну група разведчыкаў рушыла па руінах на выкананне задання. З імі была і доктар, як яе называлі, Таццяна Вахрамеева. У дванаццаць ночы група была ля мэты, каля Аляксандрплац. Схаваліся ў паўпадвале вуглавога разбітага дома. Ён служыў ім і сховішчам, і дзотам, і назіральным пунктам. Зарава ад палаючых дамоў добра асвятляла плошчу, і нашы разведчыкі бачылі, як немцы спалохана перабягалі з месца на месца, ад дома да дома. Яны яўна нечага чакалі...

Раптам з-за вугла вынырнула легкавая аўтамашына. Толькі ўбачылі яе разведчыкі, як адразу вызначылі марку аўтамабіля — чатырохцыліндравы «Вандэрэр».

— Агонь па колах! — падаў Іван каманду.

Загаварылі аўтаматы. Машына, асеўшы, прасунулася крыху па бруку і спынілася ля тратуара. Першымі да машыны падскочылі разведчыкі Генадзь Буклетаў і Фёдар Разумневіч. Яны рванулі дзверцы, наставілі на тых, хто сядзеў у машыне, аўтаматы.

— Хэндэ хох! — крыкнуў Буклетаў.

Праз мінут пяць генерала выцягнулі з машыны, а з ім — і афіцэра. Шафёра-салдата, які дрыжэў з перапуду, не кранулі. Генерал не «пажадаў» ісці, давялося яго ўзяць «на рукі», афіцэр жа, наадварот, ахвотна ішоў подскакам.

І калі нашы разведчыкі са сваім каштоўным трафеем выйшлі да перакрыжавання дзвюх шырокіх вуліц, амаль побач сталі рвацца міны і ў той жа момант гітлераўцы адкрылі люты агонь. І вось ужо чуваць крык Фёдара Разумневіча: «Памажы-це!»

Нібыта спружынай падкінула Таццяну, яна ў імгненне апынулася каля Разумневіча, падхапіла яго і пацягнула да руін. Раздаўся яшчэ адзін выбух, і ўсё завалакло дымам.

— Таварыш капітан, на дапамогу!—пачуўся надрыўны голас Таццяны.

Колас пакінуў генерала з Генадзем Буклетавым і папоўз да раненых разведчыкаў. Яму на падмогу падаспелі і астатнія нашы два разведчыкі. Яны выцягнулі з агню Таццяну і Фёдара. Доктар была паранена ў абедзве нагі, а Разумневіч—у жывот. Нямецкі афіцэр, які заставаўся з разведчыкамі, і старшына Парфірый Сцяшкоў былі забіты.

Генерала даставілі ў штаб. Па дарозе памёр Фёдар Разумневіч, а праз два дні памерла ў шпіталі і Таццяна Вахрамеева. Загінула ў Берліне, за два крокі да Перамогі.

Прадбачу пытанне чытачоў: «Дык усё-такі, хто ж ён, Іван Андрэевіч Колас, адкуль родам?»

Ён нарадзіўся 5 чэрвеня 1923 года ў Гомельскай вобласці, у Лельчыцкім раёне, у вёсцы Картынічы. Вёска тады была ў лесе, побач рака Убарць, што ўпадае ў Прыпяць.

Бацькі Івана Коласа—сяляне, бацька быў у партызанах, загінуў у 1943 годзе. Да вайны Іван скончыў Беластоцкі настаўніцкі інстытут, потым вучыў дзяцей. Пасля 22 чэрвеня 1941 года давялося ісці на ўсход, хацеў адразу ж уліцца ў Чырвоную Армію, але не атрымалася. Хаваючыся ад акупантаў, дабраўся ў родную вёску, але адпачываць там доўга не давялося. І ўсё ж пазней, у Гомелі, быў прызначаны ў Першую Беларускую авіядэсантную роту. А далей і пачалося—служба ў Дзевятай арміі, вучоба ў ваеннай спецшколе. Пачынаючы з 1942 года ў Лельчыцкім і Тураўскім раёнах быў арганізатарам і кіраўніком партыйна-камсамольскага падполля і партызанскага руху. Кіраваў спачатку падпольнай групай, затым партызанскім атрадам і брыгадай, дзе налічвалася больш за 700 байцоў.

У маі 1943 года ў жыцці Івана Андрэевіча пачаўся новы этап — ён стаў рэзідэнтам групы савецкіх разведчыкаў, якія выконвалі ў глыбокім тыле ворага асоба важныя заданні нашага камандавання на тэрыторыі Беларусі, Польшчы і Германіі. У склад гэтай групы ўваходзілі чатыры нямецкія антыфашысты з камітэта «Свабодная Германія». Аб Іване Коласе з захапленнем пішуць у сваіх успамінах маршалы Савецкага Саюза Г. Жукаў і К. Ракасоўскі, а таксама генерал Шцяменка.

Вайна пакінула на памяць Івану Коласу раны ў сэрцы і на целе... Але гэты магутны духам чалавек не здаўся, ён працягваў працаваць. Напісаў некалькі дакументальных кніг, з якіх я ўзяў канву для гэтага апавядання пра Івана Андрэевіча. Яго аповесці «Рэйкавая вайна ў Палессі», «Скачок у цемнату», «За гадзіну да світання», «Першая схватка» чытаюцца з вялікай цікавасцю. У іх на кожнай старонцы—праўда аб вайне, адкрыцці відавочцы і сведкі той незабыўнай пары. Чытаеш гэтыя кнігі і пранікаешся гонарам за нашых салдат і афіцэраў, якія адолелі фашысцкую чуму, умацаваўшы сцяг нашай Вялікай Перамогі над рэйхстагам у Берліне.

За выкананне баявых заданняў у гады вайны Іван Андрэевіч узнагароджаны пятнаццаццю ордэнамі і медалямі нашай краіны і іншых дзяржаў, у вызваленні якіх ён прымаў удзел.

**Віктар ПЛЕШАВЕНЯ.**

# У ЦАРКВУ—НА ЛЕКЦЫЮ

**Каля паўсотні дзяцей ад дзесяці гадоў і старэйшыя сталі слухачамі нядзельнай школы, што адкрылася пры праваслаўнай царкве ў Мазыры.**

**Заняткі тут праводзяцца, як сведчыць назва, па выхадных днях, так што ніколькі не перашкаджаюць вучобе ў агульнаадукацыйных школах. Затое, без сумнення, і веруючыя, і тыя, каго прывяла сюды простая дзіцячая цікаўнасць, даведваюцца многа карыснага.**

**Сярод прадметаў новай школы — гісторыя рэлігіі, мастацтва іканаграфіі, лекцыі на тэму выхавання. Такі сплаў агульнапрынятай методыкі навучання і высокамаральных прынцыпаў, якія прапаведуе царква, стане, на думку арганізатараў школы, тым залатым ключыкам, які раскрые насцярожаныя дзіцячыя душы насустрач дабру і справядлівасці.**

